*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 41(149) ◈ 13 кастрычніка 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА БСДГ РАСПАУСЮДЗІЛА ЗАЯВУ «АБ ЭКАНАМІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ»**, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «Эканамічны крызіс у краіне ўступіў у сваю разбуральную стадыю. Апошнія гады і месяцы пракамуністычны ўрад шукаў выйсця з паліўна-энергетычнага крызісу шляхам здачы адной за другой пазіцый незалежнасці і набірання шматмільярдных крэдытаў у Расіі, якія будуць сплочваць не сучасныя правіцелі, а народ і яго нашчадкі. ...Нягледзячы на глыбокі крызіс, урад адмаўляецца ад увядзення нацыянальнай валюты. Замест праведзення самастойнай грашовай палітыкі кіраўніцтва ўрада і Нацыянальнага банка знішчаюць суверэнітэт нашай дзяржавы шляхам уваходжання ў грашовую сістэму Расійскай Федэрацыі...» У сваёй заяве Цэнтральная Рада БСДГ заяўляе, што ўрад Рэспублікі Беларусь, паказаўшы сваю поўную некампетэнтнасць і нездольнасць праводзіць самастойна эканамічную палітыку, павінен пайсці ў адстаўку.*



***7 КАСТРЫЧНІКА У МЕНСКУ У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫУСЯ «КРУГЛЫ СТОЛ» НА ТЭМУ «МОВА НАЦЫІ — МОВА ДЗЯРЖАВЫ»**, які арганізавала і правяло ТБМ імя Ф. Скарыны. Рэпартаж з «круглага стала» будзе надрукаваны ў бліжэйшых нумарах «Нашага слова» і ў хуткім часе паказаны па тэлебачанні.*



***7 КАСТРЫЧНІКА НА СУСТРЭЧЫ ДЭПУТАТАЎ АПАЗІЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ З ВЫБАРШЧЫКАМІ ВАЛЯНЦІН ГОЛУБЕУ ВЫКАЗАЎ ПАТРАБАВАННЕ**, каб у будучых дэпутатаў была свая прысяга, што, на яго думку, не дасць магчымасці стаць парламентарыямі тым, хто выступае супраць дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.*



**НА ВЫШЭЙШЫХ КУРСАХ КДБ БЕЛАРУСІ** распрацавана спецыяльная праграма па вывучэнні беларускай мовы, якую будуць выкладаць вядомыя ў краіне навукоўцы.

*Жыццё Таварыства*

# Ажыццявім задумы ТБМ

***21 верасня адбылося сумеснае пасяджэнне сакратарыята Рэспубліканскай Рады і Менскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.***
***Вёў пасяджэнне старшыня ТБМ Ніл Гілевіч.***
***У пасяджэнні бралі ўдзел намеснікі старшыні ТБМ С. Запрудскі, З. Санько, Я. Цумарaў, сябры сакратарыята Рэспубліканскай Рады ТБМ і Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ М. Савіцкі, старшыні раённых арганізацый ТБМ Менска, старшыня рэвізійнай камісіі Рэспубліканскай Рады ТБМ М. Лавіцкі, галоўны рэдактар газеты «Наша слова» Э. Ялугін, прадстаўнікі Менскага гарсавета В. Кузьміч і Г. Вашчанка.***

**АБМЕРКАВАЎШЫ пытанне аб далейшай рабоце па выкананні Пастановы III з'езда ТБМ, Сакратарыят Рэспубліканскай Рады і Менскай гарадской Рады ТБМ адзначылі, што пасля з'езда Сакратарыятам Рэспубліканскай Рады ТБМ, многімі мясцовымі арганізацыямі ТБМ праводзілася пэўная работа па ажыццяўленні Пастановы III з'езда ТБМ, накіраваная на адраджэнне роднай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця народа. У пачатку мая праведзена навукова-практычная канферэнцыя па пытанні выкладання тэхнічных дысцыплін у ВНУ Рэспублікі Беларусь, а ў канцы чэрвеня — пасяджэнне «круглага стала» з нагоды чацвёртых угодкаў з дня стварэння ТБМ з удзелам прадстаўнікоў арганізацый — заснавальнікаў ТБМ. Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ арганізаваў аператыўную інфармацыю ў сродках масавай інфармацыі — у друку, па радыё і тэлебачанні, якая тычыцца Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь, што дзейнічае ўжо тры гады. У тым ліку надрукаваны інтэрв'ю старшыні ТБМ Н. Гілевіча ў газеце «Літаратура і мастацтва», намесніка старшыні ТБМ С. Запрудскага ў газеце «Знамя юности». Значная работа праведзена выдавецкай камісіяй, якую ўзначальвае намеснік старшыні ТБМ Зміцер Санько. Толькі за апошні час выйшлі з друку ў выдавецтве «Навука і тэхніка» кнігі «Нарысы па гісторыі беларускага мастацтва» М. Шчакаціхіна і «Западно-Русизм» А. Цьвікевіча, зборнік «Голас народа — голас Божы» (лісты і тэлеграмы выбаршчыкаў у абарону роднай мовы, супраць увядзення двухмоўя (пад рэд. Н. Гілевіча), зборнік публіцыстычных артыкулаў Н. Гілевіча па праблемах адраджэння роднай мовы «Як не спыніць узыходу Сонца». У хуткім часе выйдзе з друку брашура**

*Заканчэнне на с. 2.*

**●**

***ПАДПІСАНЫ УСТАНОЎЧЫЯ ДАКУМЕНТЫ ГАНДЛЁВАГА ДОМА «БЕЛАРУСЬ» У РЫЗЕ**, створанага па ініцыятыве беларускіх прадпрымальнікаў з Латвіі і пры падтрымцы беларускага ўрада. У задачы дома ўваходзіць забеспячэнне беларускімі таварамі Прыбалтыкі і ўсяго свету праз порты Латвіі і забеспячэнне Беларусі рыбнымі прадуктамі.*

**●**

# БЕЗ БЕЛАРУСКАГА СЛОВА БЕЛАРУСІ НЯМА

**Нельга не заўважыць, што апошнім часам значна актывізавалася выдавецкая дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Зрэшты, нічога тут дзіўнага, бо моўнае пытанне ў нашых варунках усё больш і выразней набывае значнасць пытання палітычнага.**

**Мяркуйце самі, мінула тры гады з дня прыняцця Закона аб мовах, які, нагадваем, надаў нашай мове статус адзінай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь. Адпаведныя палажэнні Закона, хоць не без цяжкасцей, далёка не гладка, але ўсё ж увасабляюцца ў жыццё. На родную мову паступова пераходзяць сярэдняя і вышэйшая школы, культура, асвета, больш яна стала ўжывацца ў навуцы, сродках масавай інфармацыі, у паўсядзённым жыцці. А гэта недвухсэнсоўна азначае, што павароту назад не будзе, што нацыянальнае Адраджэнне — не звыклая часовая кампанія (колькі іх мы ўжо перажылі), а важны накірунак унутранай палітыкі, які з'яўляецца своеасаблівым індыкатарам, нават гарантам суверэннасці і дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны. Натуральна, што ў такіх умовах ворагі беларушчыны ўсіх масцей і адценняў — ад артадаксальных ленінцаў да ваяўнічых праваслаўных цемрашалаў, розных груповак тыпу «Славянского Собора» і «Союза офицеров»— вылезлі з акопаў і пайшлі ў рашучую атаку на беларускае слова. Размовы аб так званым дзяржаўным двухмоўі, якое на практыцы скрозь азначае татальнае вяртанне да гвалтоўнай русіфікацыі, якое (паводле задумак ініцыятараў) павінна падрыхтаваць глебу да страты нашай дзяржаўнай незалежнасці, да вяртання назад у імперыю, вялiся на самым высокім узроўні. Яны запаланілі старонкі пракамуністычных і наплову бульварных газет, літаральна забілі эфір. Таму ТБМ імя Ф. Скарыны рэзка пасіліла прапаганду роднага слова. Апроч рэспубліканскага штотыднёвіка «Наша слова», зараз на месцах выдаецца шэраг газет Таварыства: «Сумежжа»— у Паставах, «Рагнеда»— у Салігорску, «Баранавіцкае слова» і іншыя.**

**Прапагандзе беларускай мовы і нашай нацыянальнай культуры служаць таксама кнігі, якія апошнім часам выдадзены Таварыствам (дванаццаць назваў). Дзве з іх зусім нядаўна ўбачылі свет у выдавецтве «Навука і тэхніка» (наклад 10 тысяч паасобнікаў). «Голас народа — голас Божы»— так назваў падборку тэлеграм і лістоў выбаршчыкаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у абарону матчынай мовы укладальнік і рэдактар аднаго са згаданых выданняў, старшыня Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч. Дарэчы, частка гэтых тэлеграм і лістоў друкавалася ў «Нашым слове». Кніжка «Як не спыніць узыходу сонца»— публіцыстычны зборнік Ніла Гілевіча, дзе аўтар горача адстойвае статус беларускай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай мовы роднай Бацькаўшчыны. Назву гэтай кніжкі далі яго радкі з прадмовай да анталогіі «Матчына слова» (Менск, 1991): «Як не спыніць узыходу яснага сонца — так і не стрымаць адраджэнне нашай мовы». А пачынаецца зборнік палымяным выступленнем Н. Гілевіча на рэспубліканскай канферэнцыі, што адбылася 19 траўня мінулага года, «Беларуская мова і незалежны дзяржаўны суверэнітэт». Менавіта тады з трыбуны канферэнцыі старшыня ТБМ падкрэсліў: «Без беларускага слова Беларусі няма!»**

**Не сумняваемся, што згаданыя выданні ТБМ цёпла сустрэнуць прыхільнікі беларускага нацыянальнага Адраджэння, яны шмат каму дапамогуць адчуць, урэшце, сябе беларусамі... Дададзім, што зараз да друку рыхтуецца яшчэ пяць кніжак, якія будуць пазначаны грыфам Таварыства. Сярод іх асаблівую ўвагу раім звярнуць на наступныя: «Сто пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі» (укладальнікі І. Саверчанка і З. Санько, другое выданне), «Беларусь учора і сёння: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі» (аўтары Я. Найдзюк, І. Касяк), «Пачаткі роднае мовы: дапаможнік для ўсіх» В. К. Раманцэвіч.**

**Мар'ян ВІЖ.**

# Ажыццявім задумы ТБМ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

Л. Лыча «Моўная рэформа 1933 г.», дапаможнік В. Раманцэвіч «Вучымся па-беларуску», зборнік «Сто пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі» і некаторыя іншыя выданні. За гэты перыяд шмат цікавых матэрыялаў з жыцця мясцовых арганізацый ТБМ надрукавана ў газеце «Наша слова».

Нямала цікавых і карысных мерапрыемстваў праведзена мясцовымі арганізацыямі ТБМ. У канцы жніўня супрацоўнікі Сакратарыята Рэспубліканскай Рады ТБМ прынялі ўдзел у свяце, прысвечаным Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь у г. Лідзе. Адметнай падзеяй гэтага свята было адкрыццё помніка Ф. Скарыну. Збудаванне гэтага помніка адбылося па ініцыятыве Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ (старшыня Міхась Мельнік). У далейшых планах Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ — пабудаваць будынак, у якім размесціцца цэнтр беларускай культуры і нацыянальных традыцый. Цэнтр беларускай культуры створаны пры актыўным садзеянні Полацкай арганізацыі ТБМ.

Змястоўную работу па адраджэнні роднай мовы, нацыянальнай культуры вядзе Маладзечанская гарадская арганізацыя ТБМ (старшыня Цімохін Л. А.). Адметнай рысай дзейнасці гэтай арганізацыі сталі цесныя кантакты з кіраўніцтвам гарсавета. Тут таксама паказаны добры прыклад выкарыстання ў мэтах прапаганды беларускай мовы сродкаў масавай інфармацыі (старонка ў Маладзечанскай гарадской газеце, тэматычныя перадачы ТБМ па гарадскім радыё). І яшчэ адзін цікавы прыклад з дзейнасці гэтай арганізацыі — шырокае далучэнне да праблем ТБМ грамадскасці. Так, усе супрацоўнікі завода парашковай металургіі сталі сябрамі ТБМ. Днямі парадавала Салігорская арганізацыя ТБМ, якую ўзначальвае сябра Сакратарыята Марыя Мацюкевіч, выдаўшы першы нумар газеты «Рагнеда», а некалькі раней у Салігорску пачаў працаваць кіёск ТБМ.

Да нядаўняга часу Круглянскі раён быў у ліку тых, дзе адсутнічала раённая арганізацыя ТБМ, але, дзякуючы падтрымцы кіраўніцтва райсавета, тут створана раённая арганізацыя, якую ўзначальвае загадчыца метадычнага аддзела Цэнтральнай раённай бібліятэкі Святлана Вадап'ян. За кароткі тэрмін Круглянская арганізацыя ТБМ выйшла ў лік найбольш актыўных і ініцыятыўных. Можна было б прывесці нямала і другіх станоўчых прыкладаў дзейнасці мясцовых арганізацый і першасных суполак. Аднак ёсць пільная патрэба засяродзіць увагу актывістаў ТБМ на нявырашаных пытаннях.

У Сакратарыяце Рэспубліканскай Рады ТБМ, у мясцовых арганізацыях ТБМ на нізкім узроўні знаходзіцца арганізацыйна-прапагандысцкая работа. Да цяперашняга часу няма дакладных звестак аб колькасці першасных суполак, аб колькасці сяброў ТБМ у іх. Дрэнна наладжана прапаганда дзейнасці арганізацый ТБМ у сродках масавай інфармацыі (друк, радыё, тэлебачанне). Зусім адсутнічае метадычная работа. Не абагульняецца і не распаўсюджваецца перадавы вопыт лепшых арганізацый ТБМ. Недастаткова клапоцяцца аб павелічэнні колькасці першасных суполак, стварэнні адпаведных умоў для работы арганізацый ТБМ у раёнах, дзе яны адсутнічаюць да гэтага часу, а такіх раёнаў больш за 40.

Сакратарыят Рэспубліканскай Рады не мае планаў работы гарадскіх і раённых арганізацый, адпаведнай інфармацыі аб іх дзейнасці па выкананні рашэнняў III з'езда ТБМ.

Не ўсё робіцца з боку рэдакцыі газеты «Наша слова» па прапагандзе станоўчага вопыту работы арганізацый ТБМ. У некаторых выпадках газета больш нагадвае грамадска-палітычнае выданне. Ёсць патрэба выпрацаваць пэўную сістэму прапаганды самой газеты, асабліва ў перыяд падпісной кампаніі.

Не ўсюды наладжана супрацоўніцтва арганізацый ТБМ з мясцовымі арганізацыямі — заснавальнікамі ТБМ, другімі грамадскімі арганізацыямі і ўстановамі.

Сур'ёзнай перашкодай на шляху дзейнасці арганізацый ТБМ з'яўляецца адсутнасць падтрымкі ТБМ з боку дзяржавы. Да гэтага часу актывісты ТБМ не маюць ніякіх умоў для работы, толькі ў некалькіх гарадах (Ліда, Маладзечна, Полацк) ім выдзелены памяшканні.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што ўсе арганізацыі ТБМ працуюць на грамадскіх пачатках. Ні ў адной з мясцовых арганізацый няма штатных адзінак.

Да гэтага часу ў бухгалтэрыі ТБМ адсутнічаюць адпаведныя звесткі, прадугледжаныя Статутам ТБМ па пытаннях фінансавай дзейнасці.

Зыходзячы з пералічаных недахопаў і ўлічваючы вялікую патрэбу ў навядзенні пэўнага парадку ў дзейнасці арганізацый ТБМ у сучасны нялёгкі перыяд, сумеснае пасяджэнне Сакратарыята Рэспубліканскай Рады і Менскай гарадской арганізацыі ТБМ пастанавілі:

1. Прызнаць мэтазгодным у кастрычніку—лістападзе правесці шэраг арганізацыйных мерапрыемстваў па ўдасканаленні дзейнасці арганізацый ТБМ.

У тым ліку:

Правесці рэгіянальныя гарадскія, раённыя канферэнцыі ТБМ, на якіх падвесці вынікі работы па выкананні рашэнняў III з'езда ТБМ, актывізаваць гэтую работу.

Правесці перарэгістрацыю ўсіх першасных суполак, калектыўных сябрын і другіх самадзейных аб'яднанняў ТБМ. Пратаколы і адпаведныя дадзеныя (колькасць суполак і сяброў ТБМ у іх, прозвішчы старшынь намеснікаў, скарбнікаў; адрас, а калі ёсць тэлефон — яго нумар, нумар банкаўскага рахунку; пералік самадзейных аб'яднанняў, прадугледжаных Статутам ТБМ, створаных пры арганізацыі і ТБМ, з кароткай інфармацыяй аб праведзенай рабоце за справаздачны перыяд даслаць у Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ не пазней 15 снежня г. г.

2. Правесці пэўную работу па больш актыўным выкарыстанні сродкаў масавай інфармацыі для прапаганды дзейнасці арганізацый ТБМ. Прызнаць пажаданым стварэнне ўласных сродкаў інфармацыі (газеты або старонкі ў раённых, гарадскіх газетах, тэматычныя перадачы па мясцовым радыё і тэлебачанні і інш.).

3. Правесці ў кастрычніку пасяджэнне «круглага стала» па тэме «Мова нацыі — мова дзяржавы».

4. Правесці пасяджэнне Рэспубліканскай Рады з абмеркаваннем пытання «Аб далейшым удасканаленні дзейнасці арганізацый ТБМ па адраджэнні роднай мовы». Прапанаваць мясцовым арганізацыям ТБМ правесці адпаведныя пасяджэнні або канферэнцыі.

5. Звярнуць увагу ўсіх арганізацый ТБМ на неабходнасць шырокай рэкламы газеты «Наша слова», асабліва ў перыяд падпіснай кампаніі.

Яшчэ раз звярнуцца да кіраўнікоў рай-, гарвыканкамаў тых раёнаў, у якіх адсутнічаюць арганізацыі ТБМ.

**Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**

# Злачыннасць — нацыянальная пагроза

Кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі прыняло незалежнага кандыдата на пост Прэзідэнта РБ графа Аляксандра Прушынскага і яго давераную асобу — старшыню Хрысціянскага дэмакратычнага саюза Беларусі М. Вашкевіча.

У часе працяглай гутаркі былі абмеркаваныя пытанні супрацьстаяння развіццю арганізаванай злачыннасці, справакаванай развалам СССР, якая выйшла на сусветны ўзровень. Адпрацоўвалася магчымасць узаемадзеяння паліцыі Канады, Інтэрпола і МУС РБ.

Старшыня ХДС Беларусі растлумачыў пазіцыю хрысціянскіх дэмакратаў па пытанні барацьбы з арганізаванай злачыннасцю. Дасягнута дамоўленасць аб двухбаковых візітах паліцыі Канады і міліцыі Рэспублікі Беларусь.

**Антон КАЗЛОЎСКІ.**

# Весткі з Віленшчыны

На праспекце Гедыміна адкрыты шапік тутэйшай беларускай фірмы «Гуда». Колькі было рэкламы, спадзяванняў на яго, як на адну з крыніц беларускага Адраджэння! Аднак, за выключэннем некалькіх беларускіх кніжак ды газет, што прадаюцца ўтрая даражэй, усё астатняе на літоўскай мове.

* * *

На пытанні адкрыцця ў Вільні беларускай гімназіі існуюць прынцыповыя разыходжанні паміж ТБМ і кафедрай беларусістыкі Віленскага педагагічнага універсітэта (сп. Л. Плыгаўка). Так, ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю выступае за адкрыццё (аднаўленне) менавіта беларускай гімназіі. Кафедра ж беларусістыкі выступае за беларуска-літоўскую гімназію. Нават заявы (бланкі) сп. Л. Плыгаўка надрукавала на літоўскай мове і раздае іх дзецям і бацькам.

**Ю. ГІЛЬ.**

# «Духоўнасць — неабходная і жыццядзейнасці»

***Гутарка з загадчыкам аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства, доктарам філалагічных навук В. П. Лемцюговай.***

**— Валянціна Пятроўна, Вас ведаюць у Беларусі як аднаго з вядучых спецыялістаў у галіне мовазнаўства. Раскажыце, калі ласка, як складвалася Ваша навуковая біяграфія?**

— Нарадзілася я на ленінградскай зямлі на мяжы з Фінляндыяй. Там у брацкай магіле пахаваны мой бацька, удзельнік Фінскай кампаніі, але карані мае на Беларусі. Яшчэ і сёння стаяць на Магілёўшчыне сялянскія хаты маіх дзядоў і бацькоў, толькі ў іх гаспадараць чужыя людзі. На Магілёўшчыне я закончыла сямігодку, а затым беларускую сярэднюю школу ў горадзе Чавусы. Далейшы мой шлях у навуку праходзіў праз філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Беларускай мове вучылася ў Міхаіла Іванавіча Жыркевіча і Льва Міхайлавіча Шакуна. Пасля заканчэння універсітэта настаўнічала на Валожыншчыне. Выкладала беларускую, рускую, нямецкую мовы, займала пасаду намесніка дырэктара школы па навучанні. З сакавіка 1961 года працую ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Тут пад кіраўніцтвам акадэміка М. В. Бірылы складвалася мая навуковая біяграфія. Без адрыву ад асноўнай работы я атрымала дыпломы кандыдата і доктара філалагічных навук.

**— Вядома, што Вы з 1987 года ўзначальваеце аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі ў Інстытуце мовазнаўства. Якія зараз асноўныя накірункі ў рабоце Вашага аддзела?**

— Зараз у аддзеле вядзецца праца ў двух напрамках — фундаментальным і прыкладным. Першы з іх разлічаны на паглыбленае даследаванне беларускай мовы, працэсаў фарміравання і развіцця яе лексічнага складу, асаблівасцей семантыкі. Тут мы маем справу з вывучэннем моўнай спадчыны, дзякуючы чаму шырокая грамадскасць атрымае доступ да моўных здабыткаў папярэдніх эпох. За кошт фундаментальных даследаванняў ствараецца навуковая база, на якую павінна абапірацца практычнае мовазнаўства. У рэчышчы гэтага напрамку распрацоўваюцца дзве тэмы — «Слоўнік мовы «Нашай Нівы» і «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (у адным томе). Другі напрамак арыентаваны на тэматыку, якая мае прыкладны характар і карыстаецца шырокім попытам. Выкананне такіх тэм звычайна плануецца на больш кароткі тэрмін. Дапускаецца замена адной тэмы другой (зразумела, больш актуальнай). Словам, ён больш рухомы. Па кароткатэрміновай праграме створаны такія працы, як «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах» (Мн., 1991), «Кароткі слоўнік беларускай мовы», яго выданне ажыццяўляе выдавецтва «Мастацкая літаратура», аднатомны «Русско-белорусский словарь» (у рукапісе).

**— Вы сказалі пра распрацоўку «Слоўніка мовы «Нашай Нівы». Чаму менавіта «Нашай Нівы» і — сёння?**

— «Наша Ніва» — першая друкаваная газета, якая ўвайшла ў гісторыю Беларусі як своеасаблівы летапіс нацыянальнага адраджэння. Значэнне адраджэння пачатку XX ст. для развіцця беларускай літаратурнай мовы наступных перыядаў велізарнае. У «Нашай Ніве» выразна адбіўся стан беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст. з усімі ўласцівымі ёй супярэчнасцямі. Яна падсумавала ўсё найбольш істотнае ў беларускай нацыянальнай традыцыі і разам з тым заклала трывалы падмурак развіцця беларускай літаратурнай мовы на народнай аснове. У беларусаў гэта адна з аўтарытэтных крыніц пазнання гісторыі роднай мовы. Чаму мы аддаём перавагу слоўніку? Вядома, што працэсы і змены, якія адбываюцца ў мове, найбольш непасрэдна выяўляюцца на ўзроўні слоў і значэнняў. Лексічныя рэсурсы «Нашай Нівы» з'яўляюцца той базай, на аснове якой асабліва выразна абазначыліся тэндэнцыі, характэрныя для развіцця лексічнага складу беларускай мовы. Без уліку гэтых тэндэнцый, без падрабязнай сэнсавай характарыстыкі слоўніка гэтага перыяду немагчыма атрымаць аб'ектыўнае ўяўленне пра тыя семантычныя змены, што адбыліся ў слоўнікавым складзе беларускай мовы ў працэсе яе гістарычнага развіцця. Слоўнік ахоплівае масавы лексічны матэрыял, а значыць, можа аб'ектыўна пасведчыць і паслужыць своеасаблівым арбітрам пры вырашэнні спрэчных пытанняў моўнага мінулага і сучаснага. Ён лепш за якую-небудзь іншую працу здольны перадаць адчуванне духу часу, самабытнасці, шырыні і глыбіні мовы нашаніўскай пары. Спадзяёмся, што яго чакае шчаслівая доля, што ён стане фактам агульнанацыянальнага культурнага значэння, будзе мець шырокі попыт, жыць і гаварыць з наступнымі пакаленнямі, удзельнічаць у стварэнні новых духоўных каштоўнасцей. Не хочацца верыць, што нам суджана дажываць свой век у горкім адчуванні сваёй няззначнасці, непаўнацэннасці, духоўнай абмежаванасці. Але добрай перспектывы мала чакаць, яе трэба набліжаць, на яе трэба працаваць.

**— Якія перспектывы развіцця Вашага аддзела?**

— Ёсць нямала розных планаў і задум, але рэалізаваць іх з кожным годам становіцца ўсё цяжэй. Аддзел катастрафічна скарачаецца: з 13 вопытных навуковых супрацоўнікаў засталіся толькі 4. Многія перайшлі на працу ў Вярхоўны Савет і Савет Міністраў, у вышэйшыя навучальныя і іншыя ўстановы, дзе ім больш плоцяць. Страты гэтыя вельмі адчувальныя. Каб падрыхтаваць добрага спецыяліста па лексікаграфіі, спатрэбяцца дзесяткі гадоў. Як бачыце, у беларускай лексікаграфіі перспектыва незайздросная.

**— Валянціна Пятроўна, Вы пачыналі працаваць у інстытуце малодшым навуковым супрацоўнікам пад кіраўніцтвам Мікалая Васільевіча Бірылы. Гэта ад яго Вашая асаблівая цікавасць да тапанімікі?**

Мікалай Васільевіч Бірыла — заснавальнік бела-

**Вучымся!**

*Жывое слова*

# «Лона» і «Улонне»

У ТСБМ падаецца фразеалагізм *на лоне прыроды* са значэннем 'на адкрытым паветры, сярод *прыроды*' і ягоны варыянт *на ўлонні прыроды*. Аднак атаясамляць словы *лона* і *ўлонне* ў сучаснай беларускай мове наўрад ці мэтазгодна. Справа ў тым, што хоць слова *ўлонне* і ўтварылася ад слова *лона*, але значэнне яго значна пашырылася. Калі, напрыклад, у XVI ст. слова *лона* абазначала і грудзі, і жывот, і палавыя органы (гл. і ў «Слоўніку мовы Скарыны». Т. I. Мн., 1977. С. 302), то ўжо ў XIX ст. I. I. Насовіч фіксуе слова *лони* ад неўжывальнага *лоня* (слав. *лоно*) са значэннем 'рукі, ахапак, захоп рукамі', а таксама вытворныя: *влонки*, *влонне* 'абдым, часткі рук, на якіх трымаюць дзіця; ахапак', *улонки*, *улонне*, *улоннико* 'тое самае; абярэмак' (гл. Насовіч I. I. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. С. 60, 271, 657). У «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» I. К. Бялькевіча слова *лона* адсутнічае, а аднакаранёвыя *ланка*, *лантух*, *лантухі*, *лантушша* і *ўлонне* абазначаюць розныя паняцці:

ЛАНКА, -і, ж. Сытая гладкая жанчына, таўстуха.

ЛАНТУХ, -а, м. Трыбух, жывот, страўнік.

ЛАНТУХІ, -оў, мн. л. Унутранасці.

ЛАНТУШША, -а, н. Зборн. Лантухі, унутранасці.

УЛОННЯ, -я, н. Улонне, калені.

У «Матэрыялах да абласнога слоўніка Магілёўшчыны» (Мн., 1981) зафіксаваны словы *лано* і *ўлонне* са значэннем 'калена' (Чавускі і Слаўгарадскі раёны), а ў «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa» знаходзім:

ЛОНКА, ЛОНАЧКА, ЛОНОК ж., м. Луг, лугавая сенажаць.

ЛОНКІ прым. Дугападобны, паўкруглы.

ЛОНКОВЫ прым. Лугавы.

ЛОНТКА ж. Вертыкальны слуп у сцяне, які злучае бярвенні.

ЛОНЧЫК м. 1. Палачка для рэгулявання нацягнутасці пілы. 2. Круты паварот ракі.

ЛОНЧЫЦЦА незак. Змацоўвацца.

УЛОННЕ, УЛОННЯ н. 1. Бярэма. 2. У выразах: Узяць (пасадзіць, лезці) на ўлонне(я) — узяць на рукі, пасадзіць на калені.

УЛОНЬКІ мн. Памянш. да *улонне*.

З прыведзеных народна-дыялектных слоў з адзначанымі значэннямі літаратурных норм лона і ўлонне ў мове літаратурна-мастацкіх твораў знайшлі месца толькі наступныя: «Вечна ён або жор, як у якую прорву, так у свой вялікі *лантух*, каўбасу з салам і сітны хлеб... або малоў усякую лухту» (М. Гарэцкі. На імперыялістычнай вайне), «Чубар... проста спачатку сеў, паклаўшы на *ўлонне* вінтоўку» (I. Чыгрынаў. «Плач перапёлкі»).

**Мікола АБАБУРКА.**

*Беларусы-філолагі*

# Ён слухаў і запісваў

***Як заўчасна пайшоў ад нас Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі! Яму ж было б цяпер толькі 75 гадоў. I колькі слоў пачуў бы ён ад людзей па-над Нёманам, Шчарай, Прыпяццю... I колькі «абразкоў» напісаў бы, а магчыма, нават і вялікую кнігу пра дарагіх яму простых людзей, пра сустрэчы з родным словам, з роднаю песняю.***

***Фёдар Міхайлавіч любіў і ўмеў слухаць, умеў занатоўваць — гэта таксама «дар Божы». Так і ствараліся ягоныя «Абразкі» — кароткія літаратурныя шэдэўры, у якіх «само слова гаворыць». Нашаму слову, беларускаму мовазнайству, беларускай філалогіі прысвяціў ён усё сваё жыццё: даследаваў фанетыку, арфаэпію, лексіку, лексікаграфію, граматыку народнай і літаратурнай мовы. Яго тытанічная праца па аналізу старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў завяршылася выданнем «Гістарычнай граматыкі беларускай мовы».***

***А як ён цаніў чужы даробак, майстэрства нашых пісьменнікаў і паэтаў! Пры ўсёй занятасці знаходзіў час выбіраць з літаратурных твораў словы, што вызначаліся надзвычайнай лаканічнасцю, вобразнасцю, выразнасцю. З вялікай адказнасцю адбіраў Фёдар Міхайлавіч «крылатыя словы» для першага выдання іх асобнай кніжкай — «Крылатыя словы і афарызмы». Яна выйшла ў 1960 г.***

***Наша газета знаёміць чытачоў з сабранымі ім беларускімі народнымі параўнаннямі.***

**З. С.**

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў**, блізкасць якіх тлумачыцца перш-наперш тым, што ў пэўны перыяд продкі сучасных славянскіх народаў жылі разам на параўнальна невялікай тэрыторыі — прарадзіме славян. Зразумела, можна гаварыць і аб так званай праславянскай мове. Гэтую агульную мову ўсіх славян можна ўзнавіць на падставе некаторых старажытных асаблівасцей, што захаваліся ў асобных мовах і дыялектах. Апошнія, паводле меркавання некаторых вучоных, існавалі ўжо ў праславянскай мове. Але ці адпавядалі праславянскія дыялекты сучасным групоўкам славянскіх моў?

Далей пераважалі спробы суаднесці дыялектнае чляненне праславянскай мовы з падзелам славян на заходніх, паўднёвых і ўсходніх. (Ва ўсходнюю групу ўключаюць і беларускую.) Цяпер выказваюцца меркаванні, што гэтыя тры групы ўтварыліся даволі позна ў выніку збліжэння гаворак, якія раней належалі да розных праславянскіх дыялектаў. Ускосна пра гэта сведчаць аднолькавыя ці падобныя племянныя назвы, што цяпер належаць да розных груп. Прыкладам, назву *паляне* насілі славяне, што жылі ў цэнтральнай Польшчы і на Кіеўшчыне. *Дрыгавічы* жылі на поўдні Беларусі, а *другавіты* — у Македоніі, *драўляне*, ці *дзераўляне*, — на Палессі і *дравяне* на Лабе (Эльбе), *смаляне* — у вярхоўях Дняпра і *смаляне* (*смоленцы*) у Радопскіх гарах на Балканах. Ёсць і летапісныя сведчанні аб значных міграцыях, як, прыкладам, аб прыходзе радзімічаў і вяцічаў «ад ляхаў», г. зн. з захаду.

Дзеля высвятлення месца нашай мовы варта звярнуць увагу на спецыфічныя тыпалагічныя сувязі беларускай мовы з сербахарвацкай у будове склада. А таму слушна выклікае сумненне распаўсюджаны тэзіс аб поўным першапачатковым дыялектным адзінстве ўсходніх славян і тэорыя т. зв. агульнай калыскі ўсіх усходнеславянскіх моў.

Відаць, меў рацыю вядомы мовазнаўца П. Бузук, які даводзіў, што ў старажытнасці мова нашых прашчураў займала цэнтральнае становішча ў славянскім свеце. Цікава, што і традыцыя фарміравання сучаснай беларускай літаратурнай мовы выяўляе выразнае тыпалагічнае падабенства з тэрытарыяльна далёкімі ад яе літаратурнымі мовамі — сербахарвацкай і македонскай. Аснову гэтай традыцыі складае апора на жывую народную мову, фанетычны правапіс і некаторыя іншыя рысы.

**Паводле Г. ЦЫХУНА.**

«БЕЛАРУСЫ» Яўхіма Карскага — класічнае фундаментальнае даследаванне беларускай літаратуры і народнай творчасці. Выхаду ў свет «Беларусаў» папярэднічала шматгадовая праца Я. Карскага над гістарычнымі крыніцамі, фальклорнымі і этнаграфічнымі запісамі.

Праца складаецца з трох тамоў, з якіх другі і трэці змяшчаюць па тры часткі (выпускі). Усяго было апублікавана сем кніг гэтага ўнікальнага даследавання агульным аб'ёмам 3105 друкаваных старонак.

Першы том — «Беларусы. Уводзіны ў вывучэнне мовы і народнай славеснасці» — выйшаў у Варшаве ў 1903 годзе. У ім аўтар сабраў тыя моўныя асаблівасці, якімі беларусы сталі вылучацца з XIII стагоддзя сярод іншых этнічных груповак усходняга славянства: невыбуховы зычны **г**, нескладовы **ў**, зацвярдзелыя шыпячыя **ж**, **ч**, **ш**, афрыката **дз**, склады **гі**, **кі**, **хі** на месцы **гы**, **кы**, **хы**, склады **ры**, **лы** на месцы **ро**, **ло**... Я. Карскі разгледзеў некаторыя лексічныя пазычанні з моў фінскіх, іранскіх, кельцкіх, германскіх ды іншых народаў.

Другі том выйшаў у Варшаве ў 1908 — 1912 гг. пад назвай «Беларусы. Мова беларускага племені» (перавыдадзены ў Маскве ў 1955 — 1956 гг. пад назвай «Беларусы. Мова беларускага народа»). Гэты том складаецца з трох частак (выпускаў): 1. Гістарычны нарыс гукаў беларускай мовы; 2. Гістарычны нарыс словаўтварэння і словазмянення ў беларускай мове; 3. Нарысы сінтаксісу беларускай мовы. У трэцім выпуску падаецца апісанне сінтаксічнага ладу беларускай мовы, асаблівасці старой мовы і сучасных беларускіх гаворак. Я. Карскі аналізуе тыпы простага сказа, спосабы выражэння галоўных і даданых членаў сказа, беспрыназоўнікавыя і прыназоўнікавыя словазлучэнні ды іншыя моўныя з'явы сінтаксічнага характару.

Для мовазнаўства мае важнае значэнне і трэці том «Беларусаў», які змяшчае «Нарысы славеснасці беларускага племені»: выпуск 1. Народная паэзія (М., 1916); выпуск 2. Старая заходнеруская славеснасць (Пг., 1921); выпуск 3. Мастацкая літаратура на народнай мове (Пг., 1922). Пры аналізе зместу, жанраў і стылістычных асаблівасцей фальклорных і літаратурных твораў даследчык разглядаў звычайна і тыя моўныя сродкі, з дапамогай якіх ствараюцца вобразы, сімвалы, перадаюцца пачуцці і перажыванні герояў. Даследчык правёў цікавыя назіранні над мовай Янкі Купалы, Якуба Коласа ды іншых беларускіх пісьменнікаў.

Навуковымі планамі нашага вучонага было прадугледжана таксама стварэнне поўнага слоўніка сучаснай беларускай мовы і слоўніка старабеларускіх пісьмовых помнікаў. На жаль, яму не давялося здзейсніць свае задумы.

Трохтомнае даследаванне «Беларусы» займае выключнае месца як у гісторыі беларускай, так і наогул славянскай філалогіі. Паводле меркавання вядомых славістаў, агромністы фактычны і бібліяграфічны матэрыял робіць гэтую працу Я. Карскага энцыклапедыяй беларускай філалогіі, адзінай па аб'ёму і багаццю матэрыялаў працы ў сусветнай навуцы.

***Паводле М. Г. БУЛАХАВА.***

**Герман БІДАР** (21.10.1941 г., Аўстрыя) — вядомы аўстрыйскі славіст, даследчык беларускай мовы. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Акадэміі Венскага гандлёвага аб'яднання па спецыяльнасці перакладчык расійскай мовы. Вывучэнне расійскай мовы прадоўжыў у Венскім універсітэце, дзе і абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1987 г. дацэнт Зальцбургскага універсітэта. Грунтоўнае веданне шматлікіх еўрапейскіх моў, у тым ліку і беларускай, далі яму магчымасць весці лінгвістычныя даследаванні ў шырокім параўнальным дыяпазоне. Г. Бідар распрацаваў і прачытаў шматлікія курсы па агульнай славістыцы і беларускаму мовазнаўству. Найбольш значнае адлюстраванне беларуская тэматыка знайшла ў цыклах лекцый «Нямецка-славянскія моўныя кантакты», «Тэорыя моўных кантактаў» ды інш. Непасрэдна беларускай тэматыцы прысвечаны курс «Беларуская мова для русістаў».

Аб'ектам даследавання Г. Бідара стала і старабеларуская мова XIV—XVII стст. Асабліва шмат увагі аддае ён вывучэнню так званых германізмаў у старабеларускай мове. Характэрна, што даследаванне нямецка-беларускіх моўных кантактаў аўстрыйскі вучоны праводзіць у шырокім агульнаславянскім кантэксце. Г. Бідар склаў аб'ёмную картатэку «Слоўніка германізмаў у старабеларускай мове», які рыхтуецца да выдання.

Вучоны піша манаграфію па нямецка-славянскіх моўных кантактах. Значнае месца ў даследчай працы Бідара займае выданне славянскіх рукапісаў і першадрукаў, якія знаходзяцца ў аўстрыйскіх бібліятэках. Здадзены ў выдавецтва зборнік «Славянскія рукапісы Зальцбургскай універсітэцкай бібліятэкі».

***Паводле У. Л. САКАЛОЎСКАГА.***

# Язык, як перац

**Вырабіў зямлю, як пальцамі перамацаў.**
**Вырабіў зямлю, як пух.**
**Вырачыў вочы, як баран на новыя вароты.**
**Вырачыў вочы, як жаба.**
**Вырваў, як з воўчых зубоў.**
**Высах, як былінка.**
**Высах, як мядзведзева лапа.**
**Высах, як перац.**
**Высах, як струк.**
**Высах, як таран.**
**Высах, як трэска (на трэску, у трэску).**
**Высах, як шчэпка (на шчэпку, у шчэпку).**
**Выскаліўся, як сабака на высеўкі (на вожаг).**
**Выскачыў, як з полымя.**
**Выскачыў, як Піліп з канапель.**
**Выскачыў, як чорт з лазы.**
**Высмажыўся, як скварка.**
**Высокі, як жардзіна.**
**Выхапіў, як з агню.**
**Выцягнуўся, як кнот.**
**Выцягнуўся, як лут.**
**Вычысціў, як конь у жолабе (за ноч).**
**Вялікі, як дуб.**
**Вялікі (страх), як з леташняга снегу.**
**Вялікі, як свет.**
**Вялы, як націна.**

**Сабраў Ф. Янкоўскі.**




*Рубрыку вядзе*

*ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ*

Эпоха ў французскай імпрэсіяністычнай лірыцы звязана з імем Поля Верлена (1844—1896).

*Поль Верлен*

## Зіянне месяца

Душа твая — малюнак артыстычны:
Пад лютняў звон прыгожы масак рой
Танцуе там, адзеўшыся нязвычна,
Ў надзеі скрыць праз гэта смутак свой.

На ціхі лад усе яны спяваюць
Пра мір жыцця і светлую любоў,
Ды веры ў шчасце спевы іх не маюць,
І з ясным светлам зліты зыкі слоў,

Са светлам месяца прыгожа-смутным,
Ад чар чыіх на дрэвах птушкі сняць,
І лёгкія струі у плачы чутным
Між мармуроў натхнёна зіхацяць.

*Пераклад з французскай Максіма БАГДАНОВІЧА.*

* * *

Гэта — усмешка адчыньвала сенцы
Ў чэрвень, у ранак, у клопат мой чорны,—
Дзе ён?.. Адна у дзвярах яна ўзорных
У шэра-зялёнай з фальбонкай сукенцы!..

Выбегла, лёгкая, зграбная, коле
Цёплай іроніяй, порсткая, смела —
Чуў я душой, што дагэтуль змрачнела,
Дыхаць красой яе стала наўколле;

Горыч знікала пад музыкай тонкай
Шчырай яе шчабятні далікатнай,
Прад дабратой нечуванай, стакратнай,
Прад весялосцю нястрыманай, гонкай.

І, як яна, я пабег па шалфеі,
Сам, нібы бунт, што быў тут жа стаптаны,
Каб, хваляваннем ушчэнт апантаны,
Вернападданічаць зграбненькай феі.

*Пераклад з французскай Алега ЛОЙКІ.*

## Зелень

Вось кветкі і плады, вось лісце і галіны,
І сэрца вось, што б'ецца дзеля Вас адной:
Яго не кройце Вы, і сціплае даніны
Не адкідайце Вашай белаю рукой...

Я толькі што з двара, акроплены расою,
Ад ветру схаладнелай на маім ілбе.
Дазвольце ж мне зазнаць ля Вашых ног спакою,
Імгненні шчасця блізкага ўявіць сабе —

І да грудзей дазвольце Вашых прытуліцца
Аглушанай ад пацалункаў галавой,
І на грамаць — пакуль не сціхне навальніца,
Пакуль Вас ахаціў прытомлены спакой.

*Пераклад з французскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*

*Майстэрства — вечнае*

# Паклон сейбіту мудрасці

***На 75-я ўгодкі з дня нараджэння Фёдара Янкоўскага падаравала неба цудоўны, сонечна-залаты дзень, быццам яго душа, звыклая да клопатаў,** і там паклапацілася **пра жывых людзей — родных, блізкіх, сяброў, былых вучняў, выкладчыкаў, студэнтаў, што прыйшлі на Усходнія могілкі, да яго помніка, пакланіцца яму, ушанаваць яго — настаўніка, вучонага, пісьменніка — памяць. Прырода мяккім сонечным святлом як бы вітала гэтую падзею.***

БЫЛО многа людзей, многа кветак. Гучалі незавучаныя — жывыя словы. Уражваў і такі штрых: прамоўцы звярталіся да яго, як да жывога, што ішло ва ўнісон з эмацыянальнымі выступленнямі і падкрэслівала веліч асобы Фёдара Янкоўскага, жыццёвасць яго школы, якая цяпер, у варунках адраджэння нацыянальнай свядомасці, асабліва патрэбная і каштоўная нацыі. Яна, школа Ф. Янкоўскага, мае шмат паслядоўнікаў у асобе яго вучняў, сённяшніх выкладчыкаў, навукоўцаў.

Пра 75-годдзе выдатнага асветніка, пра ўшанаванне памяці Ф. Янкоўскага ў навучальнай установе, дзе ён шчыраваў шмат гадоў, хораша распачаў гаворку дэкан філалагічнага факультэта Менскага універсітэта педагагічных ведаў Аляксандр Лугоўскі.

...Слова бярэ Мікола Мішчанчук, загадчык кафедры беларускай літаратуры універсітэта. Ён сардэчна дзякуе Настаўніку за навуку не толькі звацца, а і пачуваць сябе людзьмі на сваёй зямлі.

— Шчыра дзякуем вам,— кажа прамоўца,— за тое, што вы ў складаны час, драматычны, застойны час, задушны час, у задусе, у завеі ўздымалі голас пратэсту супроць зняваг у адрас роднай мовы, роднага народа. Мы будзем кіравацца вашай бацькоўскай педагогікай, сапраўднай, шчырай, адданай, а не той казённай, заснаванай на муштры, на расчалавечванні чалавека, на здзеку з чалавека...

У выступленнях Людмілы Васюковіч, загадчыцы кафедры беларускай мовы Віцебскага педінстытута, і настаўніка Уладзіміра Дзіско прагучалі пранікнёныя словы ўдзячнасці Ф. М. Янкоўскаму. Яны гаварылі ад імя ўсіх тых, хто прайшоў праз яго розум і сэрца, эрудыцыю і вялікую чалавечнасць, ад імя яго вучняў. З пачуццём замілаванасці гаварылі пра настаўніка, вучонага, пісьменніка, абяцалі верна служыць роднаму слову, матчынай мове.

...Слова прамаўляе ўзрушаная Ніна Гаўрош, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства:

— Год таму, дарагі Фёдар Міхайлавіч, мы былі тут і рабілі справаздачу: як мы жывём, што робім для нашага краю, як выконваем вашы запаветы — «Як жыць, то жыць для Беларусі, а без яе зусім не жыць».

Прамоўца гаворыць пра яго працу, якая і сёння застаецца ўзорам для пераймання, пра яго кнігі, па якіх вучацца мудрасці і сумленнасці, пра яго навуковыя праблемы, якімі зацікавіліся не толькі ў бліжнім, але і ў далёкім замежжы.

— У такі складаны час для Бацькаўшчыны, яе культуры,— працягвала Н. Гаўрош,— мы помнім ваша слова: усё праходзіць, усё мяняецца — застаецца вечным толькі родны народ, родная зямля, якую нельга апаганіць, якую нельга прынізіць і якой трэба заўсёды служыць. Ветэран вайны Павел Шаханаў пазнаёміўся з Фёдарам Янкоўскім у суровым 1942 годзе. Тут, каля надмагільнага помніка, ён гаварыў пра Фёдара Міхайлавіча не толькі як пра мужнага разведчыка, але і як пра сумленнага, справядлівага і задушэўнага чалавека.

Ганна Дораш, загадчыца неўралагічнага аддзялення Менскай абласной дзіцячай бальніцы, з цеплынёй успамінае Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, які быў яе суседам, пра тое, як яго памятаюць і дарослыя, і дзеці, з якімі ён так умеў размаўляць! Яна і пазнаёмілася з ім, калі ён у двары размаўляў з яе дачкой Волечкай. Ганна Дораш прыгадвае, як аднаго разу будзіла дома сваіх родных, казала ім, што Фёдар Міхайлавіч ужо на вуліцы, і як ёй адказвалі: «А што, ён ужо сее словы?» І яна, як да жывога чалавека, звяртаецца да памяці прафесара Ф. Янкоўскага, кажа пра вялікі дар, якім яго ўзнагародзіла Прырода,— пра тонкае адчуванне слова:

— Вы ж усю Беларусь ведалі, усіх нас, усе мясцовасці, іменна па гаворках. Скажы вам, які чалавек адкуль, а вы знаходзілі нейкі выраз, словы, якія характарызуюць гэтую мясцовасць. Мяне гэта вельмі дзівіла.

Адчуваецца, што Ганне Дораш вельмі дарагая лучнасць з высокай духоўнасцю і бязмежнай чалавечнасцю прафесара Ф. Янкоўскага. Вось яшчэ колькі слоў з яе споведзі:

— Я ўсё з вамі неяк гавару, як у двор выйду, быццам бы вы там. І я хачу яшчэ раз сказаць, што ўсе помняць вас, тое, што вы пасеялі. Вы так спакойна, свабодна гаварылі. Вас, здаецца, ніколі не бянтэжыла, калі хто на «трасянцы» з вамі размаўляў, вы працягвалі гаварыць на сваёй чысцейшай залатой мове, і ўсе адчувалі яе цану, і яна пранікала ў нашы сэрцы.

Пісьменнік Генадзь Шупенька пранікнёна, з хваляваннем гаварыў пра неспрыяльны час, пра нешчаслівы лёс нашай Радзімы ў сувязі з тымі стратамі, якія несла беларуская літаратура, і заўчаснай стратай Фёдара Янкоўскага, пра тое, што ён значыць для нацыянальнай літаратуры, культуры, для нашай духоўнасці.

...Слова бярэ Аляксандр Борыс, хірург, які стараўся дапамагчы Фёдару Янкоўскаму ў найцяжэйшую часіну яго жыцця. Глянуўшы на помнік, ён прамаўляе:

— Як волат, зліўся з гэтай агромністай скалой, зліўся з сваёй зямлёй, якой ён прысвяціў сваё жыццё і якую ўславіў у сваіх творах. Фёдар Міхайлавіч крыху пануры, як быццам адчуваючы, што сёння сапраўды ёсць прычына быць такім, бо жыццё стала нялёгкае і трывожнае. Некалькі разоў пры сустрэчах ён пытаўся, ці зямля наша, Беларусь, стане вольнай і незалежнай. Гэты час прыйшоў, Фёдар Міхайлавіч, шкада, што няма вас. Хоць яшчэ да дабра не дайшло...

Далей прамоўца нагадвае, што часы, калі Ф. Янкоўскі распачаў сваю працу, былі цяжкія, бо нельга было адкрыта змагацца за беларускую мову, за правы свайго народа, і выказвае надзею, што яго святая справа заўсёды знойдзе паслядоўнікаў. А. Борыс, як і ўсе папярэднія прамоўцы, прынёс паклон Фёдару Янкоўскаму за ўсё, што ім здзейснена дзеля Беларусі, яе народа.

Завяршылася ўрачыстая цырымонія ўзрушана-прачулым словам Серафімы Андрэеўны Янкоўскай.

— Дарагія мае людзі!— звярнулася яна да ўсіх прысутных.— Нізкі і шчыры паклон вам за тое, што прыйшлі сюды, да Фёдара Міхайлавіча, ушанаваць яго памяць у яго 75-годдзе, да якога ён, на жаль, не дажыў. Кажуць, што час — добры лекар. Гэта праўда, але адзін час не вылечыць ад скрухі і болю. А вось з дапамогай увагі і пашаны яго блізкіх, знаёмых гэта можа быць. Асабліва ў наш час, калі раскіданыя мы ўсе па сваіх кватэрах, калі кругом адны праблемы.

С. Янкоўская прыводзіць канкрэтныя выпадкі такой увагі.

— Адгортваеш старонкі «Полымя», а там — цёплыя словы Барыса Сачанкі з успамінамі пра Фёдара Міхайлавіча. Гэта — як гаючыя лекі,— кажа яна.— А хіба не бальзамам з'яўляецца званок студэнта, які гаворыць: «Сёння Ніна Васільеўна Гаўрош цэлую лекцыю прысвяціла Фёдару Міхайлавічу!» Яна на яго кнігах вучыла студэнтаў мове, паказвала, як Фёдар Міхайлавіч працаваў са словам, як ён умеў вылушчыць з багацця роднай мовы дыяменты прыгажосці. Або разгортваеш старонкі «ЛіМа», а там бачыш такія словы: «Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы». Гэта Павел Місько піша рэцэнзію на кнігу Фёдара Міхайлавіча. Цёпла і хораша піша. Фёдару Міхайлавічу прысвяцілі свае вершы многія паэты, у ліку іх — Ніна Мацяш, якую ён вельмі паважаў і па-бацькоўску называў — Нінуся. Гэта ўсё — гаючыя лекі, якія дапамагаюць трошкі суцішыць боль.

Серафіма Андрэеўна распавядае пра нядаўні паклон з далёкага замежжа — ад Эдуарда Гашынца, прафесара з Браціславы, і Карла Гутшміта, філолага з Германіі, якія добра ведалі і вельмі цанілі яго. Потым — пра цёплыя словы ад яго былога настаўніка Гургена Марціросава, армяніна, якому стала роднай Беларусь.

Удава Ф. Янкоўскага выказвае сардэчную падзяку «Нашаму слову», дзе таксама помняць Фёдара Міхайлавіча, пішуць пра яго, друкуюць абразкі і параўнанні з яго кніг. Яна шчыра дзякуе работнікам педагагічнага універсітэта, якія шчыравалі да 75-годдзя Ф. Янкоўскага: і спецыяльную газету выпусцілі, і выставу кніг зрабілі. Называюцца і Нацыянальная бібліятэка, і бібліятэка Дома літаратара, якой загадвае Ніна Адамчык,— там таксама зроблены выставы.

— Гэта ўсё, што я пералічыла,— гаючыя лекі і для мяне, і для маёй сям'і,— кажа С. А. Янкоўская.— Бо Фёдар Міхайлавіч вельмі многа зрабіў, яго творы і цяпер працуюць на нацыяльнае Адраджэнне... Нядаўна, у восьмым нумары «Полымя» быў надрукаваны артыкул Міхася Тычыны. Гэта артыкул пра Уладзіміра Калесніка, вельмі добрага літаратара. Але і ў гэтым артыкуле знайшлося слова для Фёдара Міхайлавіча. Міхась Тычына піша там, што не так багата ў нас людзей (ён дадае словы — не аблаўрэачаных), якія працавалі за цэлыя навукова-даследчыя інстытуты, і называе ў іх ліку Фёдара Янкоўскага ў мовазнаўстве. Так, ён многа зрабіў. І шкада: у яго было яшчэ вельмі многа задумаў. Ён ніколі сабе не даваў права адпачываць. Адпачынак быў не для яго. Калі ёсць жыццё на тым свеце, то Фёдар Міхайлавіч, можа, зараз глядзіць на нас усіх і разам са мною гаворыць: «Вельмі дзякую вам, людзі. Нізкі вам паклон».

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

# ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ




# НАША СЛОВА

***«Наша слова» — пастаянна дзеючая трыбуна руплівцаў беларушчыны***

**Калі выпішаце «Наша слова», Вы атрымаеце магчымасць штотыдзень знаёміцца з экспрэс-аналізамі падзей нацыянальнага жыцця Беларусі і сусвету**

**Падтрымліваць сувязь з лепшымі знаўцамі мовы і гісторыі і карыстацца іх парадамі**

**Чытаць успаміны дзеячаў культуры, згадкі, архіўныя знаходкі**

**Разнастайныя паведамленні пра беларускае замежжа**

**Агляды рэгіянальных выданняў ТБМ**

**Пераклад вострасюжэтнай прозы лепшых майстроў слова.**

**Кніжныя навіны. Размоўнікі. Радавод.**

**Народную лякарню. Гумарэскі. Эпіграмы і інш.**

***І гэта ўсяго за 60 руб. у месяц ці 180 руб. за квартал***

***Продаж у розніцу вельмі абмежаваны ІНДЭКС для падпіскі 63865***

**Супрацоўнікі і рэдкалегія «Нашага слова» звяртаюцца да ўсіх сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны і нашых актыўных аўтараў размножыць і распаўсюдзіць рэкламу «Нашага слова» і наогул паспрыяць падпісцы.**

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**13 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА**

16.55. Скарбы беларускай гісторыі.
17.40. Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Ток-шоу з удзелам народнага дэпутата Беларусі Зянона Пазьняка.
21.00. Панарама.
22.40. НІКа.

**14 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР**

16.25. Для школьнікаў. Ці любіце вы тэатр?
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
22.40. Пазіцыя ўрада.
22.55. НІКа.

**15 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА**

17.40. Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Дыялог. Лёс беларускай дзяржаўнасці.
21.00. Панарама.
23.30. НІКа.

**16 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА**

11.15. Паказвае Віцебск.
14.30. Алё! Ёсць пытанне.
21.00. Панарама.
23.45. НІКа.

**17 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ**

13.25. Адраджэнне. Культурна-асветніцкая праграма.
13.55. Літарынка.
15.30. Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.
20.00. Панарама.

*АФАРЫЗМЫ*

## Крок назад

### У. БУЛАТАВІЧ ВІБ

Каб спальвалі шыбеніцы, на зямлі адбылося б пацяпленне.

Гаротная тая праўда, якая вымушана апраўдвацца.

Здрада таварышу — першая рэпетыцыя здрады радзіме.

Інструкцыя палявання на грэшнікаў: наладзь грэх і чакай, калі нехта пападзе ў яго.

Каму замнога волі, няхай будуе прыватныя канцлагеры.

Медыцына апаратам мерае ціск.

Калі чуеце, што ўсе ненадзейныя, ведайце, што гэтая мудрасць належыць безнадзейнаму ідыёту.

Аўтары ананімных лістоў у адчаі, што іхнія творы разносяць пачтальёны, а не міліцыянеры.

Найгорш волі, калі яе баяцца вызваліцелі.

Горшыя лягчэй ідуць угару.

Не хваліцеся праграмамі. Праграму цяпер мае любая больш-менш вартая пральная машына.

Пераклаў з сербскахарвацкай
Іван ЧАРОТА.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83



Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 292.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7245 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 11.10.1993 г. у 15 гадзін.